

# Полацкая ініцыятыва

№ 1, ЛІПЕНЬ, 1998

## СЛОВА НА ЗНАЁМСТВА

**Часам бывае, жывеш і нават не падазраеш, што побач, - на адной вуліцы, ці ў адным горадзе, - адбываецца нешта цікавае і вартае ўвагі. Выпадкова, у размовах са знаёмымі, або яшчэ больш казусна - далёка ад дому, ад чужых людзей, даведваешся аб неверагодным: амаль у кроку ад цябе адбываліся гістарычныя падзеі, а ты ня быў іх сьведкам, ты нават ня ведаеш пра гэта. Ты нібыта абакраў сам сябе, бо меў магчымасьць быць багацейшым духоўна, больш глыбока разьбірацца ў навакольным жыцьці, меў магчымасьць дакрануцца да нечага сьвятога і дарагога для цябе, тваіх дзяцей, знаёмых, сяброў. Мы звыкліся спажываць сталічныя навіны, чытаць "Комсомольскую правду", "Известия", "Советскую Белоруссию", "Народную газету", глядзець тэлеканалы, якія ніколі пра нас не раскажуць. Звыкліся жыць у нейкім віртуальным сьвеце, у якім няма мейсца для нас саміх. А калі няма мейсца - дык няма і долі, і шчасьця.**

**На самой справе мы жывем у незвычайным горадзе, гісторыя якога сягае ў старажытныя часы. У Беларусі няма ніводнага горада, які мог бы падужацца з Полацкам славаю. Нездарма гэты прыдзьвінскі горад называюць духоўнай сталіцаю нашай краіны, а народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін назваў Полацак - "цемячкам нацыі". І толькі мы самі, сёньняшнія палачане, ня вельмі шануем свой горад, ня вельмі клапоцімся пра аднаўленьне і працяг яго славы.**

**Полацак заўсёды быў калыскаю культуры і асьветы роднага краю. Менавіта тут нарадзіліся самыя слынныя асьветнікі беларускай зямлі - Эўфрасіньня Полацкая, Францішак Скарына, Сімяон Полацкі, тут, у Езуіцкім калегіюме набываў веды пісьменнік Ян Баршчэўскі, а ў Піярскім калегіюме мастак Іван Хруцкі. Лёс многіх вядомых людзей зьвязаны з Полацкам.**

**У Полацку знаходзяцца галоўныя дойлідныя сьвятыні Бацькаўшчыны - Спаса-Эўфрасіньнеўскі манастыр, у якім захоўваюцца мошчы сьвятой Эўфрасіньні, і Сафійскі сабор.**

**А колькі мы яшчэ ня ведаем пра родны горад!**

**Таму "Полацкая ініцыятыва" ўскладае на сябе пачэсную задачу - казаць пра Полацак, аднаўляць яго гісторыю, клапаціцца пра яго славу. Дамы будуюцца і, састарэўшы, руйнуюцца; заводы, адпрацаваўшы свой тэрмін, зьнікаюць у невараці; яшчэ хучэй зьнікаюць прыватныя рэчы. І толькі створанае духоўным геніем чалавецтва застаецца навечна. Давайце працаваць на вякі!**

Рэдкалегія.







## Хто і што прасіў у сьвятой Эўфрасіньні?

5 чэрвеня Полацак урачыста адзначаў Дзень памяці нябеснай апякункі Беларусі сьвятой Эўфрасіньні Полацкай. Сёлета споўнілася 825 гадоў як скончылася яе зямное жыцьцё. Эўфрасіньнеўскія ўрачыстасьці, якія адбываліся ў манастыры сьвятога Спаса, сабралі вялікую колькасьць вернікаў. Такой людзкой грамады старыя манастарскія муры даўно ня бачылі. Паломнікі прыехалі з розных куткоў Беларусі. Пачалося сьвята з урачыстай літургіі ў Сьвята-Крыжаўзьвіжанскім саборы, якую адпраўляў мітрапаліт Менскі ды Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт у прысутнасьці іншых герархаў беларускага экзархату. Вялізны сабор ня здолеў зьмясьціць усіх вернікаў і ня меней як тысяча іх стаяла на манастарскім падворку, слухаючы літургію, якая трансьліравалася праз гукаўзмацняльнікі. Прысутнічалі на літургіі і шматлікія госьці - дзеячы культуры, літаратары, кіраўнікі грамадзкіх арганізацыяў, а ў 12 гадзін у сабор завіталі афіцыйныя асобы - кіраўнікі верхняй да ніжняй палат Нацыянальнага сходу



П.Шыпук і А.Малафееў. Адносна апошняга ў натоўпе пачуліся камэнтары, маўляў, у бытнасьць першага сакратара КПБ гэты дзяржаўны муж руйнаваў цэрквы, дык зараз, напэўна, прыехаў замольваць грахі.



Урачыстая літургія доўжылася амаль тры гадзіны і пасьля яе скančэньня рака з мошчамі беларускай сьвятой была вынесеная на манастырскі падворак і на руках сьвятароў паплыла над людзкім натоўпам. Была вынесеная таксама і сьвятая рэліквія - адноўлены Крыж Эўфрасіньні Полацкай, аўтар аднаўленьня якога - выбітны берасьцейскі майстра Мікола Кузьміч - таксама прысутнічаў на сьвяце.

Рака з мошчамі была ўсталявана на цьвінтары Спасаўскай царквы, і прысутныя пачулі ўрачыстую казань Мітрапаліта Менскага ды Слуцкага Філарэта. Кіраўнік Беларускага экзархату Рускай Праваслаўнай царквы казаў пра духоўны позьвіг вялікай палачанкі, сьвятасьць якой шануюць ва ўсім хрысьціянскім сьвеце і пра тое, што покуль стаіць на зямлі заснаваны ёю манастыр, покуль у ім творыцца малітва за народ, народ будзе жыць і атрымліваць сілы дзеля пераадоленьня выпрабаваньняў.

Пасьля літургіі і крыжовага ходу ўладыка Філарэт і афіцыйныя дзяржаўныя асобы азнаёміліся з праектам далейшай рэстаўрацыі манастыра, прапанаваным навукова-тэхнічным дзяржаўным прадпрыемствам "Белінфармрэстаўрацыя". Спонсарам праекта комплекснай рэгенерацыі гістарычнага помніка выступіў Міжнародны дабрачынны Фонд Крыжа найпадобнейшай Эўфрасіньні Полацкай. Дарэчы, гэты фонд узначальвае бізнэсмэн з Сургуту, беларус Анатоль Сілівончык (менавіта ён прафінансаваў істотную частку работ па ўзнаўленьню Крыжа Эўфрасіньні). Відавочна, што клірыкам Беларускага экзархату не зусім падабаецца апека грамадзкіх сьвецкіх арганізацыяў. (Напрыклад, сёлета было забаронена будаўніцтва новага жыльлёвага корпуса манастыра без правядзеньня папярэдніх археалягічных раскопак.) Адносна рэгенерацыі навуковы кіраўнік работ на аб'екце "Спаса-Эўфрасіньнеўскі манастыр" Вадзім Гліньнік сказаў: "Для мяне, як для прафэсійнага рэстаўратара, важна перш-наперш, што гэта ня толькі тэрыторыя дзейснага манастыра, але і гісторыка-культурная каштоўнасьць, якая належыць усяму народу і ахоўваецца дзяржавай у такой якасьці."

**В.М., А.А.**



**21 САКАВІКА НА ЦЬВІНТАРЫ САФІЙСКАГА САБОРА АДБЫЛАСЯ ЦЫРЫМОНІЯ ЎРУЧЭНЬНЯ ЛІТАРАТУРНАЙ ПРЭМІІ ТАВАРЫСТВА ВОЛЬНЫХ ЛІТАРАТАРАЎ "ГЛІНЯНЫ ВЯЛЕС". ЛЕПШАЙ БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЦКАЙ КНІГАЙ 1997 ГОДА БЫЎ НАЗВАНЫ ЗБОРНІК АПАВЯДАНЬНЯЎ ЛЯВОНА ВАШКО "ПАЭТЫ-ЦАРЫ" (ВЫДАВЕЦТВА "МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА"). НІЖЭЙ ДРУКУЕМ ІНАЎГУРАЦЫЙНУЮ ПРАМОВУ ЛЯЎРЭАТА, ЯКАЯ ПРАГУЧАЛА ПАДЧАС УРАЧЫСТАСЬЦІ.**

# ЗАЙГРАЎКА ДА БЕЛАРУСКАЕ ДУХАХРАМНАСЬЦІ

Хочацца, скарыстаўшыся з сёньняшняга прыемнага выпадку, сказаць пра асаблівае жыцьцё беларускага мастацтва ў вакольным цяперашнім сьвеце - пра ягоную жывасьвятнасьць. У нашай краіне мастацтва заўсёды існавала дваяка:

- як прадмет рэчаіснасьці, якая праціставіла творчасьці жывога Беларускага Духу,
- і як зьява, якая ў канчатковым выніку духатварыла паўсюдную чужынскую прадметарэчаіснасьць.

Інакш, мастацтва як дух знаходзілася ў заўсёдным праціборстве з рэальнасьцю, разам з тым пераўтвараючы яе. Галоўная роля гэткай адмысловай творчасьці-дойлідзтва належала, вядома ж, прыгожаму пісьменству.

Якраз прыгожае пісьменства нарадзіла нацыянальную рэчаіснасьць на пачатку XX стагодзьдзя; нараджэньне гістарычнай Беларусі - фэномэн найперш мастацкі, духовы, псыхічны, а тады ўжо сацыяльна-гістарычны. Гістарычнае ўрэчаісьненьне беларускае дзяржаўнасьці напрасткі вынікае з глыбіннага мастацкага вобразу Беларусі, які стварыла маладая нашаніўская, і пасьлейшая, літаратура. Як засьведчыў наступны час, вобраз гэты неўміручы, бязьмежнапаўнявальны і бязьмежнатворчы; па сутнасьці, Беларусь ніколі не жыла напоўніцу істапраўдна-рэчаісна, і як прадметная рэчаіснасьць яна заўсёды была проста этнічным краем, мёртвым, ня здатным на якоесьці паўнавартаснае нацыянальнае жыцьцё; і разам з тым ад першых сваіх дзён Беларусь жыватварылася духова, вобразамастацкі - і гэтае карэнным чынам бурыла ўсе аб'ектыўныя законы сьвету акурат мастацкаю свабодаю Духу; паводле гэтае бязьмежнае мастацтвасвабоды, насуперак аб'ектыўным і мізэрным законам рэчаіснасьці раб стаўся творцам, той, хто нарадзіўся поўзаць, здолеў паляцець да неба, а старажытныя гукі і сугуччы, якім было наканавана ціха сканаць-зьмоўкнуць пад гэтым небам, спалучыліся ў тайнічую песьню маладое беларускае душы і выявілі ў сьвеце новы народ і новую культуру.

Разуменьне велічы і сілы духатворчасьці асабліва важнае сёньня, калі беларускае мастацтва апынулася на новым вітку рэчаіснага праціборства. Паўсюдная паняверка, што апанавала нашых пісьменьнікаў - вынік гэтага працістаяньня, у якім выявілася абавязковае пярэчаньне між мастацкім чынам і аб'ектыўнасьцю: моц выбухаў Духу заўсёды выяўляе моц рэчаіснае процівадухоўвасьці; і ўвадваротку, духазанялад азначае ўладу мёртвага рэчаіснага прадметасьвету над жывіннаю дзеяю Духу, уладу сатаны-разбуральніка над чалавекам-творцам. Вось чаму паняверка ў сучаснай нацыянальнай літаратуры, маральны паралюш, нежаданьне ейнае тварыць з пустасьвету наш духакрай сёньня на ўнутраны заняпад мастацтватворчасьці.


ЛЯВОН ВАШКО.

Выйсьце ў гэткім становішчы можа быць толькі адное: трэба як хутчэй выцерці сьлёзы і ўшчыльную брацца за будаўніцтва беларускага Храму Духу - краіны нашае духовае Творчасьці; інакай кажучы, мастацкі творчы чын, сьвядомае праціпастаўленьне беларусазьнішчэньню беларусатворчасьць - мусіць зрабіцца галоўнаю задачаю, галоўнаю мэтаю і галоўным спосабам нацыянальнага існаваньня. Той бяздонны мастацкі вобраз беларускасьці, запалены на пачатку XX стагодзьдзя нашымі першымі дойлідамі, вобраз, які надалей вырэчаісьніў і Беларусь, і нас саміх, трэба асьвяціць новымі выбухамі Беларускага Духу, трэба збудаваць новымі спалыскамі Беларускага Сьветатварэньня. Сатану, які сёньня гуляе баль на абсягах Бацькаўшчыны, мы здолеем змагчы, калі патрапім вытварыць насуперак яму наш боскі сьвет - чысты, ясны, беларускі, сьвет Духу і Творчасьці. Вайна ж з сатаною ў той спосаб, да якога ён штурхае, павяртае да разбурэньня і заняпаду, да яшчэ большае паняверкі і да яшчэ большага асатаненьня, якія ёсьць зараз. Плюгавага можна выкараніць, адно ствараючы, але не руйнуючы; толькі ў гэтае барацьбе між тварэньнем і руйнаваньнем зьгіне тое, што даўно належыць сатане ды даўно мусіць зьгінуць і бяз нашых высілкаў, і народзіцца тое, што сёньня чакае ад нас аграмадных духовых вымогаў у справе беларускага сьветатварэньня. На мёртвых пацяробах, што пакідае па сабе плюгавы, мы пасеем мільёны жывых беларускіх словаў і высьпелім мільёны неўміручых беларускіх ідэяў; мы наталім жывымі мастацкімі вобразамі беларускага сьвету мільёны сэрцаў, якія прагнуць гэтых вобразаў і мастацкага сутварэньня, і абудзім прагу да сьвятой беларушчыны ў мільёнах людзей, якія ўсё яшчэ дрэмлюць у навакольным прамінулым, ужо ўчорашнім сьвеце.

Вось некаторыя мае меркаваньні наконт духахрамнае творчасьці, зь якімі мне хацелася б падзяліцца сёньня і якімі б мне хацелася кіравацца ў пісьменстве.

# УГОДКІ, ЯКІЯ НЕ ПАТРАПІЛІ Ў БЕЛАРУСКІЯ КАЛЕНДАРЫ

**СЯБРЫ ТАВАРЫСТВА ВОЛЬНЫХ ЛІТАРАТАРАЎ, ШТАБ-КВАТЭРА ЯКОГА ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ПОЛАЦКУ, САМІ НЕ ЧАКАЛІ ГЭТАГА: СЁЛЕТА, У 1998 ГОДЗЕ, ІХ ЛІТАРАТУРНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ СПОЎНІЛАСЯ ПЯЦЬ ГАДОЎ. ХУТКА ЛЯЦІЦЬ ЧАС, ІМКЛІВА ПРАНОСЯЦЦА ПАДЗЕІ, - ЧАСАМ ГІСТОРЫЯ НЕ ПАСЬПЯВАЕ НАТАВАЦЬ ІХ.**

8 траўня 1993 года каля 20-ці беларускіх пісьменьнікаў сабраліся ў Наваполацку, каб заснаваць уласную, альтэрнатыўную Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, літаратурную суполку. З Полацку і Менску, Горадні і Кобрыня, Віцебску і Пастаў. З рэфэратамі аб стане пасьлятутэйшаўскай сытуацыі ў беларускай літаратуры на арганізацыйным сходзе выступілі Славамір Адамовіч, Алесь Аркуш і Юры Гумянюк. Вынікам узьніклай гарачай дыскусіі стала рашэньне аб заснаваньні ўласнай літаратурнай суполкі, якая атрымала назву "Таварыства Вольных Літаратараў", і прыняцьцё "Заявы сяброў Таварыства Вольных Літаратараў" - свае подпісы пад галоўным статутным дакумантам паставілі 16 удзельнікаў сходу. Галоўным каардынатарам Таварыства быў абраны Алесь Аркуш, сябрамі Рады - Юры Гумянюк, Славамір Адамовіч, Ігар Сідарук, Юрась Пацюпа (пазьней у Раду быў каап таваны Вінцэсь Мудроў). У "Заяве" былі такія радкі: "Як усе літаратары Беларусі, мы марым пра росквіт беларускай літаратуры. Але мы супраць манаполіі ў літаратуры. Мы супраць пратэкцыянізму і карупцыі ў мастацтве." Такім чынам, зьяўленьне ТВЛ стала выклікам на нежаданьне старэйшых калегаў па літаратурнаму цэху праводзіць адпаведныя новаму часу зьмены ў функцыянаваньні айчыннага літаратурнага працэсу. Некаторыя з заснавальнікаў ТВЛ у свой час уваходзілі ў легендарнае літаратурнае аб'яднаньне "Тутэйшыя" (Славамір Адамовіч, Алесь Аркуш), аднак на той час яны былі разачараваныя дзейнасьцю аб'яднаньня, яго курсам на самаліквідацыю і далучэньне да СП. Таму ў свой статут тэвэлаўцы ўключылі вельмі жорсткі пункт: немагчымасьць падвойнага сяброўства ў айчынных літаратурных арганізацыях.


Арганізацыйны сход ТВЛ. 8 траўня 1993 г.

Усе свае культурніцкія акцыі "пратэстанты", як пазьней тэвэлаўцаў назваў сябар суполкі Юрась Пацюпа, імкнуліся праводзіць самастойна. Самі прадукавалі ідэі, самі знаходзілі сродкі, самі вырашалі ўсе арганізацыйныя пытаньні. Існавала чатыры тэрытарыяльныя філіі ТВЛ: полацкая (галоўная, якую ўзначальваў Алесь Аркуш), гарадзенская (Юры Гумянюк), менская (Славамір Адамовіч), берасьцейская (Ігар Сідарук). На Арганізацыйным сходзе было прынята рашэньне аб перадачы літаратурнага альманаха "Ксэракс Беларускі", які выдавалі палачане, пад "юрысдыкцыю" Таварыства, а таксама - пра заснаваньне новага выданьня: альманаха "Калосьсе". Прапанову адносна "Калосься" выказаў пастаўскі пісьменьнік Алесь Касьцень, які паабяцаў выдрукаваць першы нумар альманаха ў Пастаўскай друкарні (так яно і сталася, першы нумар "Калосься" пабачыў сьвет у Паставах.) А ў Полацкай друкарні быў распачаты друк паэтычных зборнікаў сэрыі "Паэзія новай генэрацыі". Крыху пазьней пад праекты ТВЛ было задзейнічана і берасьцейскае выдавецтва Сяргея Лаўрова. Таварыства заснавала сваю літаратурную прэмію за лепшую беларускую мастацкую кнігу года "Гліняны Вялес", яе ляўрэатамі сталі: Ігар Бабкоў, за зборнік вершаў "Solus Rex" (1993); Людка Сільнова, за зборнік візуальнай паэзіі "Рысасловы" (1994); Алесь Разанаў, за кнігу вершаў "Паляваньне ў райскай даліне" (1995); Славамір Адамовіч, за зборнік вершаў "Каханьне пад акупацыяй" (1996); Лявон Вашко, за зборнік апавяданьняў "Паэты-цары" (1997).

Юрыдычна зарэгістравацца здолела толькі полацкая філія (25 жніўня 1994 г. у Наваполацкім гарвыканкаме). Спробы зарэгістраваць ТВЛ як літаратурную рэспубліканскую арганізацыю, якія ўпарта на працягу паўгода праводзіў Славамір Адамовіч, скончыліся безвынікова - бюракратычная машына часоў Кебіча стварала ўсемагчымыя перашкоды на гэтым шляху. Хуткім часам Славамір Адамовіч заняўся палітычнай дзейнасьцю і адыйшоў ад ТВЛ, а затым і выйшаў зь яго. Менская філія Таварыства практычна самаліквідавалася - бо іншыя два яе сябры, Сяргей Мінскевіч і Алесь Туровіч, заснавалі новую літ.суполку "Бум-Бам-Літ". У выніку чаго дзейнасьць ТВЛ была вынесена пераважна ў рэгіёны (галоўным чынам Полаччыну і Гарадзеншчыну). На Полаччыне адбыліся ўсе тры міжнародныя літаратурныя канферэнцыі, якія ладзіла Таварыства, з гэтага году тут пачалі праводзіцца ўручэньні літаратурнай прэміі "Гліняны Вялес" (Лявон Вашко свайго глінянага стода атрымліваў на цьвінтары Сафійскага сабору).

ТВЛ зрабіла вялікую працу па рэабілітацыі (узьняцьцю статуса) рэгіянальнага беларускага пісьменьніка; на практыцы прадэманстравала іншы, альтэрнатыўны, шлях у літаратуру; а таксама скасавала паняцьце "прафэсійны пісьменьнік - Сябра СП", - шэсьць сяброў ТВЛ патрапілі ў біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменьнікі" (Том 6, 1995). Аднак антыдэмакратычныя падзеі, якія адбываліся ў краіне апошнімі гадамі, ліквідавалі асобныя дасягненьні Таварыства. Так, у новае выданьне Вялікай Беларускай Энцыкляпедыі патрапіў толькі Алесь Аркуш, адбылося гэта дзякуючы дапамозе першай літары альфабэту, - старыя-новыя цэнзары не пасьпелі ўсачыць першы том.

Сябры ТВЛ у сваёй творчасьці парушылі цнатлівасьць і сярмяжнасьць беларускай літаратуры. Іх дзёрзкія, незвычайныя для айчыннага пісьменства творы некаторыя літаратуразнаўцы кваліфікавалі як узоры беларускага постмадэрнізму. Творчасьць тэвэлаўцаў была заўважана ў Польшчы, пераклады іх твораў зьявіліся ў часопісах "Kartki" (Беласток), "Czas kultury" (Познань), "Borussia" (Ольштын), у анталёгіі новай беларускай паэзіі "За небакраем Эўропы" (якую ўклаў і пераклаў вядомы беластоцкі перакладчык Ян Максімюк). Перакладаліся творы сяброй ТВЛ таксама на Украіне, Расеі, Летуве. У сярэдзіне 98-га ТВЛ атрымала хаду ў ІНТЭРНЭТ. Зараз Таварыства працуе над новымі праектамі, пра якія, спадзяюся, здолею ў свой час расказаць на бачынах "Полацкае ініцыятывы".

**Васіль КРОКВА.**

В.Мудроў, А.Касьцень, А.Дабравольская. 8 траўня 1993 г.

# Нішто не зьнікае бяз сьледу

**ШТО ПРЫНОСІЦЬ ЧАЛАВЕКУ АДЧУВАНЬНЕ ЖЫЦЬЦЯ - ВЕЧНЫ РУХ ЧАСУ, ПАДЗЯЎ, ІМКНЕНЬНЕ ДА ПАЗНАНЬНЯ СЯБЕ І ТАГО, ШТО НАЎКОЛ? ЧАСАМ МОЖНА ПАЧУЦЬ - ЖЫЦЬЦЁ СКРУШНАЕ І АДНАСТАЙНАЕ. АЛЕ ВАРТА ЎВАЖЛІВА ПРЫСЛУХАЦЦА ДА СЯБЕ І ДА ТАГО, ШТО ВАКОЛ, ЯК УСЁ ЗЬМЕНІЦЦА.**

Полацак нясе ў сабе багатую падзеямі і прыгажосьцю штодзённасьці гісторыю. Кожнаму чалавеку, які жадае дакрануцца да яе,



Полацкі Езуіцкі калегіюм. Гравюра Габрыэля Грубэра.

горад прыадчыняе свае дзьверы. Палітычная сытуацыя ў розныя часы стварала зручныя магчымасьці для назапашваньня гэтых таямніцаў, гэтак жа як і для іх руйнаваньня. Полацкая зямля слой за слоем адкрывае нам саміх сябе. Кіруючыся законам заканамернасьці, нельга ні да чаго ставіцца як да выпадковага. Шматгадовае жыцьцё горада - гэта перадусім творчасьць яго жыхароў.

На працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў палачане, абмінаючы рэшткі Езуіцкага калегіюма, задаюць сабе пытаньне: што ж яны хаваюць у сабе; спыняюцца і, натрапіўшы вачыма на "дом з вушамі", узгадваюць: на гэтым мейсцы стаяў Мікалаеўскі сабор, які некалькі стагодзьдзяў быў дамінантай горада, - далёка, амаль з усіх гарадзкіх ваколіц, былі бачны яго сьпічастыя званіцы.

На працягу некалькі гадоў ідуць рэстаўрацыйныя работы правага крыла корпуса Езуіцкага калегіюма, у якім разьмесьціцца сталая экспазыцыя карціннай галерэі. І гэта невыпадкова. З 1788 года ў Езуіцкім калегіюме існавала карцінная галерэя, у якой былі прадстаўлены ўзоры дасягненьняў сусьветнай культуры - творы Пітэра Пауэла Рубэнса, Сальвадора Розы, Шымона Чаховіча, копіі прац Тыцыяна, Рафаэля, больш двух тысячаў гравюраў, вялікая колькасьць партрэтаў асобаў, якія былі зьвязаны з гісторыяй калегіюма. У галерэю патраплялі працы прыезджых мастакоў, мясцовых выкладчыкаў, а таксама найбольш таленавітых выхаванцаў навучальнай установы. Музэй Полацкага езуіцкага калегіюма, а з 1812 года Акадэміі - другой, пасьля Віленскай, на беларускай зямлі і шостай, сярод расейскіх ВНУ з унівэрсытэцкім статусам, - карыстаўся шырокай вядомасьцю і заслужанай славай. Ён быў прыдатны не толькі для вучэбных мэтаў, але і выконваў асьветніцкую функцыю: знаёміў сваіх наведнікаў з дасягненьнямі заходнеэўрапейскай навукі і культуры.

У Полацкай Акадэміі зрабілі свае першыя крокі ў выяўленчым мастацтве такія мастакі XIX стагодзьдзя як Рафаэль Сьлізень, Валянтын Ваньковіч, Каспар Бароўскі, Фёдар Талстой, якія затым працягнулі сваё навучаньне ў Пецярбурскай Акадэміі мастацтваў, альбо ў краінах Эўропы. Захаваліся імёны таленавітых палачанаў - Савелія Сорына, Івана Хруцкага (м.Ула), Уладзімера Дамагацкага (м.Адампольле).

Неспрыяльная палітычная сытуацыя ўскладняла эвалюцыйныя культурніцкія працэсы. Шмат з таго, што некалі захоўвалася ў музеі Полацкага езуіцкага калегіюма, цяпер знаходзіцца ў Расеі, Летуве, Польшчы.

Яшчэ да другой сусьветнай вайны ў фондах Полацкага краязнаўчага музэя, які быў створаны ў 1926 годзе, знаходзілася вялікая калекцыя жывапісу, захоўваліся тут і асобныя партрэты з Езуіцкага калегіюма (цяпер уласнасьць Нацыянальнага мастацкага музэя Рэспублікі Беларусь).

Полацкі гісторыка-культурніцкі музэй-запаведнік на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў сабраў новую цікавую калекцыю выяўленчага мастацтва, якая адлюстроўвае мастацкае жыцьцё ў рэспубліцы з сярэдзіны 50-х гадоў. Калекцыя пэрыядычна папаўняецца за кошт адзінкавых набыткаў і падарункаў мастакоў. У гэтым годзе Саюз мастакоў Беларусі перадаў ПГКМЗ дваццаць пяць твораў розных айчынных майстроў пэндзля, творчая спадчына якіх займае ганаровае мейсца ў гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва сярэдзіны XX стагодзьдзя - В.Цьвіркі, А.Малішэўскага, І.Басава, А.Кішчанкі, С.Каткова, Р.Кудрэвіч і інш., а таксама дзьве жывапісныя працы Язэпа Драздовіча, нашага земляка, мастака, этнографа, вучонага, мэтаю ўсяго жыцьця якога зьяўлялася захаваньне і адраджэньне культуры беларускага народа. Яго патаемнай мараю быў сьвет, адлюстраваны ім у карцінах аб космасе, сьвет спакою і раўнавагі, гармоніі і прыгажосьці.

У сьвеце нічога не зьнікае бяз сьледу, нават думка - гэтая няўлоўная інтэлектуальная бліскавіца. Перадумовы чагосьці, што сябе ўжо праявіла, што некалі разьвівалася марудна або наадварот - імкліва, знойдуць свой працяг, як чалавек, што перажыў на сваім шляху ўзьлёты і падзеньні, але лёс якога робіцца набыткам чалавецтва; гэтыя перадумовы знойдуць свой працяг у справах нашчадкаў, а значыць - застануцца назаўсёды.

**Ларыса ЛЫСЕНКА, мастацтвазнавец.**

# Крыж на мейсцы пакутаў і гвалту

**7 ЧЭРВЕНЯ НА СЁМУХУ ЗГОДНА ЗЬ ЮЛЬЯНСКІМ КАЛЕНДАРОМ НА БЕЛЬЧЫЦКІХ МОГІЛКАХ ЛЯ ПОЛАЦКУ БЫЎ АСЬВЕЧАНЫ НОВЫ КРЫЖ ПАМЯЦІ НА МЕЙСЦЫ РАССТРЭЛАЎ 1937-41 ГАДОЎ. ПАВОДЛЕ ПАКАЗАНЬНЯЎ СЬВЕДКАЎ, РАССТРЭЛЫ АДБЫВАЛІСЯ ЎНАЧЫ. ЗВОЗІЛІ СЮДЫ НЯ ТОЛЬКІ ЖЫХАРОЎ ПОЛАЦКАЕ АКРУГІ, АСУДЖАНЫХ "ТРОЙКАМІ" НА СЬМЕРЦЬ, АЛЕ Й ТЫХ, КАГО ЗАТРЫМАЛІ БЛІЗУ ПОЛЬСКАЕ МЯЖЫ, ШТО ЙШЛА НА ТОЙ ЧАС СПАЧАТКУ ЎЗДОЎЖ ДЗЬВІНЫ (АД ДРУІ ДА ДЗІСНЫ), ПАСЬЛЯ ПАВАРОЧВАЛА НА ПОЎДЗЕНЬ І ЙШЛА ПА СУЧАСНАЙ МЯЖЫ ПОЛАЦКАГА РАЁНУ ЗЬ МЁРСКІМ І ГЛЫБОЦКІМ.**

Першы драўляны крыж на гэтым мейсцы быў усталяваны намаганьнямі сяброў Полацкае Рады БНФ на восеньскія Дзяды 1990 г. На той час у паветры луналі спадзяваньні, што будуць адчыненыя архівы НКВД-КГБ і ўдасца даведацца пра колькасьць забітых і імёны ахвяраў. Але пасьля 1994 году пачаўся антыдэмакратычны адкат і верагоднасьць таго, што нашчадкі закатаваных даведаюцца аб апошнім прытулку на гэтай зямлі сваіх бацькоў і дзядоў стала зусім мізэрнаю. Сам жа крыж напаткаў цяжкі лёс. Аднае начы (час дзеяньняў для асобаў пэўнага складу асабліва прынадны) крыж быў зламаны, але мясцовыя жыхары яго аднавілі. У такім стане крыж дастаяў да сёньня, калі быў усталяваны больш трывалы - мэталёвы. Новы помнік ахвярам выкананы таксама за кошт ахвяраваньняў сяброў і прыхільнікаў Народнага Фронту. Усталяваньне крыжу не было акцыяй палітычнаю, але грунтавалася на разуменьні таго, як важна усім, хто меў сваякоў, што зьніклі ў часе 1937-41 гг., мець пэўнае мейсца, дзе б можна было памаліцца за душы нявінных ахвяраў. Падзея высьвяціла і яшчэ адну праблему: жахлівы стан бездухоўнасьці, што пануе ў нашым грамадзтве. З тых, хто прыйшоў на могілкі, няшмат прыняло ўдзел у службе за памерлых. Былі гэта людзі пераважна сталага веку. Маладзейшыя ж пазіралі на службу грэка-каталіцкіх сьвятароў, як на незвычайнае шоў. Некаторыя падыходзілі да крыжа й нават жагналіся ў прамежку між прыймом гарэлкі, якую з энтузіязмам спажывалі, пасеўшы ці палегшы між магілак. Гледзячы на гэтых "ахвяраў рэжыму", хацелася выгукнуць "o tempora, o mores!" ("о час, о звычаі!"). Але маю надзею, што прасьвятленьне наведае й гэтыя душы.

**Міхась БАЎТОВІЧ.**

# Падзеі культурнага жыцьця

ПОЛАЦКІ РОК-ГУРТ "МЯСЦОВЫ ЧАС" **дачакаўся другой сваёй касэты. Сёлета ўвесну суполка "Беларуская музычная альтэрнатыва" выдала "Падвойны альбом" калектыву, які аб'яднаў дзьве архіўныя праграмы вэтэранаў беларускага року: "Слота" (1989) і "Мой дом" (1990). Альбомы былі запісаны ў прымітыўных, амаль "падвальных" умовах, таму тэрмін "андэграўнд" - іх трапнае вызначэньне. Невысокая якасьць запісу не перашкодзіла выдаўцам укласьці ў тыражаваньне "Падвойнага альбома" грошы. "Не дзеля камэрцыі, а дзеля гісторыі выдалі,"- патлумачыў кіраўнік БМА Віталь Супрановіч. Сапраўды, шэраг песень з гэтай касэты можна сьмела далучыць да клясыкі беларускай рок-музыкі: "Наш шлях", "Папера", "Мой дом".**

Алесь КОЗІК.

**30 КРАСАВІКА** ў мастацкім салёне Полацкага музэя беларускага кнігадрукаваньня адкрылася выстава акварэлі Аляксея Марачкіна. А.Марачкін шырока вядомы як жывапісец, які зьвяртаецца ў сваёй творчасьці да гістарычнай тэматыкі. Незвычайна і досыць уражліва ўспрымаецца прапанаваная ім сэрыя акварэляў жаночых вобразаў: скрозь рухомыя каляровыя плямы праяўляюцца абрысы, якія напоўнены таямніцаю аголенага цела і адчуваньнем прасторы. Мастак ахарактарызаваў свае працы як стан душы ў пэўны пэрыяд жыцьця.

**Ларыса ЛЫСЕНКА.**

ДРУКАВАНЫ ВОРГАН ТВЛ, **літаратурны часопіс "Калосьсе", уважаецца сярод самых аўтарытэтных беларускіх літ. выданьняў. 11-14 траўня выдавец часопіса Алесь Аркуш удзельнічаў у прадстаўнічым сэмінары для рэдактараў грамадзка-культурных выданьняў зь Беларусі, які праходзіў у невялічкім польскім мястэчку Казімеж Дольны. Больш падрабязна пра гэты сэмінар можна прачытаць у газэце "Наша Ніва" (№10,1 чэрвеня 1998 г.)**

Тацяна КОЗІК.

**"ПРАГУЛЯНКА ПА НІЖНЕПАКРОЎСКАЙ"** - так незвычайна названы новы, сёмы па ліку, музэй у Полацку, адкрыцьцё якога адбылося 16 траўня. Новы музэй унікальны - ён прысьвечаны гісторыі адной вуліцы, якую сёньня недарэчна завуць вуліцай Леніна. Наведаўшы гэты музэй, вы даведаецеся, што на Ніжнепакроўскай, далёка не цэнтральнай вуліцы Полацка, у пачатку XX стагодзьдзя разьмяшчаліся: жаночая гімназія, банк, заезджы дом, бакалейныя крамы, аптэка і г.д. Экспанаты музэя ўзнаўляюць інтэр'еры асобных пакояў у будынках на гэтай вуліцы, апавядаюць пра быт іх жыхароў. Аўтар канцэпцыі і галоўны яе выканаўца - навапалацкі мастак Уладзімер Галеба.

**Алесь КОЗІК.**

ПОЛАЦКІ АВАНГАРД, **нароўні з віцебскім, прызнаны ня толькі ў Беларусі, але і ў суседніх краінах. 28 траўня ў польскім горадзе Шчэцын прайшоў фэстываль выяўленчага мастацтва "Беларускі авангард". Яго арганізатарам і куратарам выступіла вядомая польская мастацтвазнаўца Эўлалія Даманоўска. Сярод дзесяці запрошаных для ўдзелу беларускіх авангардыстаў, двое прадстаўлялі Полаччыну: Алег Ладзісаў і Аляксей Лунёў. На жаль, Алег ня здолеў прыехаць на фэстываль, бо знаходзіўся ў Нямеччыне, яго творы экспанаваліся бяз аўтарскай падтрымкі. Затое Лёша Лунёў удзельнічаў у "Беларускім авангардзе" па поўнай праграме. Аляксеевы экспанаты называліся "Хайта. Тэкст." Дарэчы, адкрыцьці сталічнага літаратурнага руху "Бум-Бам-Літ", які маніхвэстуюць шырокае выкарыстаньне тэксту ў навакольным жыцьці, ня ёсьць адкрыцьцямі нават у межах Беларусі, бо Лёша Лунёў пачаў працаваць з "тэкстамі" значна раней. Гэта - розныя скрыні-тэксты, тэлевізар-тэкст, каралі-тэксты і г.д. Ягоны накірунак канцэптуальнага мастацтва хочацца назваць "box-text".**

Алесь АРКУШ.

**ВЫСТАВЫ КРАЯВІДАЎ** заўсёды збіраюць вялікую колькасьць прыхільнікаў жывапісу. У Полацкім гісторыка-культурным музэі-запаведніку ў чэрвені адкрылася выстава "Беларускі краявід" з фондаў запаведніка. На ёй прадстаўлены творы клясычнага жывапісу 80-х гадоў. Для гэтага пэрыяду разьвіцьця айчыннага выяўленчага мастацтва характэрна сузіральна-апавядальная трактоўка рэчаіснасьці. У працах В.Цьвіркі, Р.Кудрэвіч, Л.Шчамялёва, З.Літвінавай, С.Каткова прыгажосьць, веліч і шчымлівы лірызм беларускай прыроды.

**Ларыса ЛЫСЕНКА.**

ВУЧАНЬ ПЯТАЙ КЛЯСЫ **дзіцячай музычнай школы пры Навапалацкай музычнай вучэльні Уладзіслаў Плігаўка стаў пераможцам міжнароднага конкурса акардэяністаў, які адбыўся**



**сёлета ў нямецкім горадзе Клінгентале. Гэта ўжо шостая перамога ў прэстыжных конкурсах юнага музыканта і ягонага пэдагога Міхаіла Івашкіна.**

Эрнст ЦЕЦЯРЭЎСКІ.

# УРОК ПАТРЫЯТЫЗМУ НАСТАЎНІКАЎ З СБП

**НАПЭЎНА Б, І НА ГЭТЫ РАЗ СТАЛАСЯ Б ТОЕ, ШТО ПАЎТАРАЛАСЯ БЯСКОНЦУЮ КОЛЬКАСЬЦЬ РАЗОЎ У ГІСТОРЫІ НАШАГА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА.**

Пра Саюз Беларускіх Патрыётаў, падпольную маладзёвую арганізацыю, што існавала вельмі нядоўга, з восені 1946-га па люты 1947 года, у Глыбоцкай і Пастаўскай пэдагагічных вучэльнях (у пяцідзесятыя гады яны былі скасаваныя), толькі нядаўна расшукаў скупенькія зьвесткі ў архіве вядомы гісторык, нястомны дасьледнік нашай мінуўшчыны Леванід Лыч. У пратаколе XIX зьезда Кампартыі БССР, у прамове 17 лютага 1949 года кіраўніка беларускага МГБ Лаўрэнція Цанавы, наперсьніка Лаўрэнція Берыі, была такая інфармацыя: "На тэрыторыі Баранавіцкай, Маладзечанскай, Полацкай і Пінскай абласьцей былі выкрыты і ліквідаваны падпольныя антысавецкія арганізацыі, гэтак званыя "Саюз вызваленьня Беларусі", "Саюз Беларускіх Патрыётаў", "Чайка", "Вольная Беларусь" і г.д." Да гэтага дадаваліся стандартныя фармулёўкі: групоўкі, канечне ж, інсьпіраваліся агентамі імпэрыялізму, а канкрэтна - былымі прыслужнікамі нямецкіх акупантаў і беларускіх нацыяналістаў, што "зьвілі гняздо ў эміграцыі".

Вось такі сухі лаканізм, падобны на вырак якой-небудзь славутай "тройкі", на выстрал у патыліцу.

А калі ўжо зазналі сьвет публікацыі пра Саюз Беларускіх Патрыётаў, выйшла кніга "Гарт", адзін мой знаёмы, камсамольскі актывіст першых пасьляваенных гадоў, узгадаў: дык гэта пра СБП расказвалі актыву на закрытай нарадзе ў райкаме ў 48-м ці ў 49-м годзе пра выяўленую ў суседнім раёне страшэнную небясьпеку - нейкую падпольную арганізацыю, якая магла зрабіць вялікую шкоду дзяржаве, Савецкай Беларусі.

Вось і ўсё што пакідалася для гісторыі пра СБП. Выкрылі новых "ворагаў народа", ліквідавалі і ўсё на гэтым, і з памяці сьцерці.

Ніхто, нават родныя і блізкія асуджаных за СБП, ня ведалі, за што ж канкрэтна завінавацілі гэтых маладзенькіх, нават юных навучэнцаў, якія хацелі стаць настаўнікамі, - прыгаварылі да 25, 20, 15, 10 гадоў зьняволеньня. Чацьвярым нават пагражала сьмяротная кара, але якраз выйшаў указ аб адмене яе, праўда, часовы, дык ім замянілі былы максымум новым - 25-ткай. Хаця было вядома: судзілі гэту групу "за палітыку". "Палітыку" зрабіць было тады зусім проста - за неасьцярожна сказанае слова, за непаважлівае абыходжаньне з партрэтам высокага дзеяча, з лёзунгам, за стогны аб цяжкім жыцьці... "Палітыкі" баяліся ўсе, ніхто ня быў гарантаваны, што ўсьцеражэцца ад яе, як ад якой заразы. А ў тое, што тыя трыццаць зь лішнім навучэнцаў Глыбоцкай і Пастаўскай пэдвучэльняў учынілі ці хацелі учыніць нешта злое для дзяржавы і для людзей, ніхто, ва ўсякім разе мала хто верыў. Амаль усе былі выдатнікамі вучобы, прыстойнымі маладымі людзьмі, бездакорнымі ў быце і паводзінах, карацей - гэта быў цьвет вучэльняў.

Мне выпала бачыць, як лютаўскім марозным ранкам энкавэдысты вялі арыштаванага ў нашай вёсцы настаўніка Янку Рымдзёнка. Ён толькі пачаў свой першы навучальны год пасьля сканчэньня Пастаўскай пэдвучэльні. У школе яго любілі ўсе. Прыгожы, статны, разумны, добразычлівы, завадатар мастацкай самадзейнасьці, нагогул душа моладзі. І вось на вачах дзевяціґадовага хлапчука яго пад рукі вядуць энкавэдысты з аўтаматамі. На ўсю вёску галосіць ягоная матка, плачуць сёстры. Сьлёзы і ў мяне. Перада мной дзеецца штосьці дзікае, недарэчнае. Ці Янка Рымдзёнак такі благі, здатны на нешта страшнае - каб вялі з перасьцярогамі, як забойцу або ґвалтаўніка, ці зь ім памылка, схапілі невіннага? Маё сэрца не прымае, ня можа прыняць, што настаўнік вінаваты. Так і засталася ў маёй памяці тая злавесна-загадкавая, пазбаўленая логікі падзея. Не даваў спакою лёс любімага настаўніка: зьнік, як выкрасьлілі яго з жыцьця і зь людзкой памяці.




Ужо ў БДУ, праслухаўшы даклад Хрушчова на XX зьездзе КПСС аб кульце Сталіна, які чыталі выкладчыкам, асьпірантам і студэнтам за зачыненымі дзьвярыма, мяне асяніла здагадка: глыбоцкіх і пастаўскіх навучэнцаў у 1947 годзе пасадзілі без усякай віны, над імі ўчынілі беззаконьне. У далейшым была нават думка паспрабаваць тое-сёе дазнацца пра іх справу, пра іх лёс. Але дзе, у каго дазнацца? Невядома было нават, дзе і калі судзілі тых бунтароў. А ў душы ўжо адзывалася і гордасьць: бач, сьмелыя, адважныя былі - не пабаяліся, падалі голас, калі ўсе і ўсё дрыжэла, калі на што хто і асьмельваўся, дык паказваць хвігу ў кішэні.

Толькі ў 1992 годзе, цераз 45 гадоў, змог даведацца, што ж дзеялася ў той лютаўскі, золкі ранак у нашай вёсцы. Арыштоўвалі аднаго з сяброў Саюза Беларускіх Патрыётаў, нашага любімага настаўніка Янку Рымдзёнка. Паэт, краязнавец са Слоніма ў артыкуле "Патрыёты маўчаць не схацелі" ў газэце "Наша слова" (18 сакавіка 1992 года) расказаў пра СБП, пра расправу над ім у 47-м. Сам актыўны ўдзельнік супраціву палітыцы бальшавікоў у пасьляваенны час, вязень ГУЛАГу, ён у лягеры сустракаўся з сябрамі СБП, добра ведаў пра гэту арганізацыю. СБП выступаў за родную мову, за сапраўдную незалежнасьць Беларусі, за яе гісторыю, спадчыну без скажэньняў і хлусьні, за родныя сымбалі, традыцыі. Гэта па бальшавіцкіх мерках было прызнана варожай народу дзейнасьцю. За гэта ж былі зьнішчаны так званыя "нацдэмы" ў 20-30-я гады, была высечана ў пень эліта нацыянальнай інтэлігенцыі. Бальшавіцкая сякера працягвала выбіваць нацыянальнае ў Беларусі і далей...

Цяпер маёй задачай стала зьвязацца з сябрамі СБП і адшукаць сьляды Янкі Рымдзёнка. На жаль, нічога пра яго не даведаўся. Колькі часу назад мне паведамілі: ён памёр - так і не вярнуўся дадому.

Пошукі зьвялі мяне з сябрамі СБП, якія, аказалася, жылі ў адным са мной горадзе Полацку - з сужэнцамі Марыяй і Львом Бялевічамі, аднакурсьнікамі па Глыбоцкай пэдвучэльні, з кіраўніком Глыбоцкай групы СБП Васілём Мядзельцам, з Алесем Дзікім - гэты яшчэ нястары чалавек праз нейкі час згас ад рака. Затым адбылася мая сустрэча з Іванам Бабічам, родным братам Марыі Бялевіч (Бабіч), яго таксама праз год з нечым ня стала. Потым у Мёрах была сустрэча з Алесем Юршэвічам, у сталіцы з Алегам Таболам. Зь іншымі наладзілася сувязь па ліставаньні.

Прызнаюся, уцешна было з кожным новым знаёмствам пераконвацца, якія гэта цікавыя, неардынарныя людзі. Здавалася б, кінутыя на самы ніз жыцьця, у лягерныя, турэмныя абставіны, затым на цяжкую працу ў рудніку, шахты, на лесапавал, людзі, на якіх да нядаўняга часу кожны з "бездакорнай" анкетай мог дазволіць сабе паглядзець звысоку, а не ачарсьцьвелі, не задубелі душой, захавалі дабрыню, чалавечнасьць, спагаду, інтэлігентную цікавасьць да кнігі, да палітыкі. Як былі, так і засталіся адданымі сынамі і дачкамі Беларусі. Большасьць сяброў СБП пры першай жа магчымасьці пастаралася вярнуцца на Беларусь, бліжэй да родных мясьцін.

Неяк быццам сама сабой узьнікла думка пра кнігу. Столькі перажыта, столькі аддадзена дзеля роднай Беларусі, а якраз уздымалася хваля нацыянальнага адраджэньня. Узяліся пісаць усе разам. Хто напісаў сам свае ўспаміны, з кім давялося пагутарыць мне і запісаць. Ад усёй душы мы ўдзячны рэдакцыі часопіса "Полымя" і яго рэдактару Сяргею Законьнікаву, Сяргею Дубаўцу і ягоным паплечнікам па "Наша Ніве" за спрыяньне з публікацыяй нашай кнігі.

Цяпер мы чуем прыязныя водгукі аб кнізе "Гарт". Чытачы выказваюць захапленьне прыкладам сяброў СБП, які яны далі наступным пакаленьням. Сябры СБП рэабілітаваны "за адсутнасьцю састава злачынства". Цяпер ужо пра іх кажуць, як пра сапраўдных патрыётаў, як пра герояў свайго часу.

А колькі яшчэ ў нашай гісторыі застаецца хлусьні, фальсіфікацыі, падтасовак! Як мала мы яшчэ ведаем праўды пра сваё мінулае! У афіцыйнай гісторыі шмат ацэнак, якія зводзяць усё да прымітыўнай сярмяжнасьці, лапцюжнасьці, ад якой хочацца толькі адвярнуцца і адхіснуцца. Унушаецца думка, што беларусы заўсёды карысталіся чужым розумам, толькі і жылі, калі заставаліся пад апекай арла белага ці двухгаловага, самастойнымі ніколі не былі, ня ўмелі быць ды і не хацелі. Дзіва, што мы і самі адмаўляемся ад свайго, як ад якога-небудзь таўра нікчэмнасьці, другавартаснасьці.

Але ўжо прабіваюцца расткі іншага, аб'ектыўнага бачаньня мінуўшчыны. Нам так патрэбна поўная праўда аб нашай гісторыі.

**Герман КІРЫЛАЎ.**

***P.S.*** *Аўтар прадмовы, укладальнік і літаратурны апрацоўшчык "Гарта" Герман Кірылаў летась за працу над кнігай атрымаў літаратурную прэмію імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра.*

# КЛЯСЫК ПОЛАЦКІХ ТАЯМНІЦАЎ

**УЛАДЗІМЕР АРЛОЎ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА АЎТАРАМ САМАЙ ПАПУЛЯРНАЙ У ПОЛАЦКУ КНІГІ - "ТАЯМНІЦЫ ПОЛАЦКАЙ ГІСТОРЫІ", ЯКАЯ СТАЛА ПАДРУЧНІКАМ ПА ГІСТОРЫІ РОДНАГА ГОРАДА. БЫЛЫ ПАЛАЧАНІН УВАЧАВІДКІ ПЕРАКАНАЎСЯ, ШТО НІХТО НЕ БЫВАЕ ТАКІМ ЎДЗЯЧНЫМ ЗА ПІСЬМЕННІЦКУЮ ПРАЦУ, ЯК ЗЕМЛЯКІ, АСАБЛІВА КАЛІ ТЫ ПІШАШ ПРА ІХ І ДЛЯ ІХ. ЦІ НЕ ТАМУ ПІСЬМЕНЬНІК ВЫРАШЫЎ НАПІСАЦЬ СЭРЫЮ ПОЛАЦКІХ АПАВЯДАНЬНЯЎ, ЯКІЯ НА ПРАЦЯГУ АПОШНІХ ГАДОЎ ДРУКАВАЎ У ГАЗЭЦЕ "НАША НІВА". ГЭТЫЯ ТВОРЫ, САБРАНЫЯ РАЗАМ, І СКЛАЛІ ЧАСТКУ КНІГІ "РЭКВІЕМ ДЛЯ БЕНЗАПІЛЫ", ШТО ВЫЙШЛА СЁЛЕТА Ў ВЫДАВЕЦТВЕ "МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА".**

Напэўна, не адзін палачанін пазнае сябе ў галоўных герoях арлоўскіх апавяданьняў. Падзеі ў іх адбываюцца ў 60-х гадох, калі Валодзя Арлоў зьяўляўся вучнем полацкай СШ №1. Пісьменьнік, не адмаўляючыся ад свайго разьняволеннага стылю сябра-апавядальніка, узгадвае свае першыя амурныя захапленьні, піша пра прыгоды мальцаў з роднай вуліцы і роднай школы, апавядае пра асобныя, пераважна трагічныя лёсы, сваіх аднагодкаў. Жыцьцё расейска-габрайска-беларускага Полацка 60-х аўтар малюе рознакаляровымі фарбамі, з гумарам і асаблівым, арлоўскім, досьціпам. Ягоныя тэксты "патыхаюць" каларытнай атмасфэраю разьвітога сацыялізму: калі ў полацкіх школах ваяўніча змагаліся з даўгімі валасамі вучняў, за сьценамі Сьвята-Крыжаўзьвіжанскага сабора ў Спаса-Эўфрасіньнеўскім манастыры трымалі сьвіней, а сам Вова Арлоў думаў, што слова "цягнік" паходзіць ад слова "сьцягнуць". Сёньняшнія вучні полацкіх школаў такое, дзякуй богу, ня памятаюць, таму гэтыя апавяданьні для іх будуць таксама гістарычнымі, як бы працягам "Таямніц полацкай гісторыі", - іх найноўшым пэрыяд.




Акрамя апавяданьняў кніга таксама зьмяшчае тры аповесьці: "Сібірскую аповесьць", "Краявід з мэнтолавым пахам" і "Genius loci".

Першы твор апавядае пра сібірскія будатрадаўскія будні Валодзі Арлова, студэнта гістфаку БГУ. Стылістычна гэты літаратурны "хіт" вельмі блізкі "Полацкім апавяданьням". Тыя ж пікантныя прыгоды, тыя ж абсурдна-трагічныя праявы разьвітога сацыялізму, тыя ж юначыя пошукі свайго жыцьцёвага шляху і непрыняцьцё антычалавечых каштоўнасьцяў грамадзтва "роўнасьці і братэрства".

Зусім іншыя дзьве другія аповесьці. Яны прысьвечаныя жанчыне і каханьню. Чытаючы іх, мне ўзгадалася першая кніга Ул. Арлова "Добры дзень, мая Шыпшына" (1986), асабліва аднайменнае апавяданьне, а таксама "Віта" і "Зялёная Чара". Прыгоды каханьня пісьменьнік аздабляе ледзь не містычным антуражам. Ня галоўную таямніцу жыцьця. Як вартую жыцьця. Як неўміручасьць.

**Алесь АРКУШ.**

**"Полацкая ініцыятыва"** - грамадзка-культурніцкі бюлетэнь.

Выходзіць адзін раз на месяц.

**ЗАСНАВАЛЬНІК І ВЫДАВЕЦ** - грамадзкае аб'яднаньне "Полацкая ініцыятыва".

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** Алесь Аркуш (рэдактар), Міхась Баўтовіч, Мікола Ермалаеў, Тацяна Козік, Алесь Кузьмін, Ларыса Лысенка, Вінцэсь Мудроў, Сяргей Цімохаў.

Наклад - 299 асобнікаў.

Выданьне зроблена пры ўдзеле выдавецкай суполкі "Полацкая ляда", рэдакцый часопіса "Калосьсе" і газэты "Витебский курьер".

**E-mail: freelit@polotsk.unibel.by**

Надрукавана ў Новаполацкай ўзбуйнёнай друкарні. Заказ № 3667.